

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.

№14 (306) КАСТРЫЧНІК 2021 ГОД


РЭЙД

# МАСКА – НЕАБАВЯЗКОВЫ АТРЫБУТ?

**Днямі адбыўся рэйд кантралёраў па шумілінскіх гандлёвых аб'ектах на чале з памочнікам урача-гігіеніста РЦГЭ Вольгай Кузьмінай. Вядома, што захаванне масачнага рэжыму ў раёне рэгулярна правяраюць работнікі шумілінскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

Пры ўсімы тым, што зараз сітуацыя з захворваннем на каранавірус болей, чым напружаная – як у рэспубліцы ў цэлым, так і ў нашым раёне ў прыватнасці. Менавіта таму ва ўсіх рэгіёнах Беларусі ладзілі ўзмоцнены кантроль за захаваннем масачнага рэжыму ў крамах, аб'ектах грамадскага харчавання, установах аховы здароўя, адукацыі, спорту і іншых грамадскіх месцах.

Для гэтага маецца афіцыйная Пастанова Міністэрства аховы здароўя № 105, якая ўступіла ў сілу з 9 кастрычніка бягучага года. Гэты дакумент заклікае ўсіх грамадзян краіны выкарыстоўваць у грамадскіх месцах сродкі аховы органаў дыхання ( маска, рэспіратар ) і захоўваць сацыяльную дыстанцыю, выконваць іншыя санітарна-гігіенічныя меры.

Прафілактычны рэйд у першую чаргу ставіў мэту данесці да кожнага чалавека важнасць захавання мер бяспекі. Тут варта адзначыць, што яшчэ ад самага пачатку пандэміі ў кожнай шумілінскай краме на ўваходных дзвярах, ля касы былі размешчаны ўлёткі, якія нагадваюць пра неабходнасць выкарыстання сродкаў індывідуальнай аховы. Для пакупнікоў былі ўстаноўлены санітайзеры для апрацоўкі рук або стаяць бутэлькі з дэзсродкамі.

Праўда і тое, што апошнім часам у Шуміліне людзей на вуліцах значна паменела. Немнагалюдна было і ў адным з самых вялікіх магазінаў райцэнтра: у той жа «Санце» – у разгар рабочага дня пакупнікоў прысутнічала няшмат. Усе наведвальнікі заходзілі з вуліцы ў гандлёвую залу масках. Прадаўцы таксама былі ў масках – і на касе, і ў гандлёвай зале. Бадай што, работнікі "Санты" кожны дзень па графіку апрацоўваюць касы, халадзільнікі, кошыкі для пакупак, вітрыны. Прычым, робіцца гэта ў начны час, каб не перашкаджаць пакупнікам. Зараз у асноўным пакупнікі разумеюць і добраахвотна карыстаюцца маскамі. Варта дадаць, што да такога рэжыму шумілінцаў прывучалі цэлы месяц. Былі і такія, што скардзіліся ці нават учынялі сваркі. Але афіцыйная пастанова, ды і самому трэба разумець сітуацыю, каб клапаціцца не толькі пра сваё здароўе, але і пра здароўе нашых землякоў, сярод якіх мы ўсе жывем.

У магазіне «Міні-Маркет» назіралася падобная карціна: адразу ж перад уваходнымі дзвярыма многія прыпыняюцца, дастаюць з кішэні маскі і надзяваюць. Лекар, якая ўзначальвае рэйд – Вольга Кузьміна ўсім нагадвае як правільна іх насіць: абавязкова закрываць нос, рот і падбародак.

У магазіне «Метан» прадаўцы распавялі аб тым, што не да свядомасці ўсіх наведвальнікаў яшчэ дайшоў "масачны рэжым". Адбывалася і такое, што некаторыя пакупнікі нават пужалі скаргамі ў вышэйшыя інстанцыі. Прадаўцам дадзілася прыкладаць нямала намаганняў, каб запэўніць і пераканаць пакупнікоў, як важна выкарыстоўваць сродкі індывідуальнай аховы. Але ж ці гэта іх абавязкі, калі дастаткова аб'явы, а ўсё астатняе – гэта наўпрост неадукаванасць ды недысцыплінаванасць пакупніка? Ды і хто павінен "выхоўваць" парушальнікаў? Між іншым, маскі, амаль ва ўсіх магазінах раёна можна набыць на касе, у тым лі ку і ў «Метане» прадаюцца. Дарэчы, меры прафілактыкі прадугледжаны і ў кафэ «Метан» – па рэкамендацыі работнікаў санстанцыі тут нават павялічылі адлегласць паміж абедзеннымі сталамі.

У магазіне «Еўраопт» толькі адзін пакупнік трапіўся без маскі. Але той, як толькі падышоўшоў да касы, дастаў яе з кішэні і надзеў. Бо цудоўна ведаў, як і ўсе астатнія, што іншым выпадку прадавец не абслугоўвае. Вынікі рэйду паказалі, што істотных недахопаў выяўлена не было: дэзсродкі ёсць, а прадаўцы разам з пакупнікамі ў масках.

Аднак з апошніх падзей у Беларусі па ўсяму відаць, што ўсё ж такі збылася мара "скаржнікаў-антымасачнікаў". Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка падчас нарады, прысвечанай каранавірусу, нечакана жорстка выказаўся:"вакцынацыя і маскі толькі добраахвотна, ніякіх прымусаў". Пры гэтым раскрытыкаваў саму ідэю "прымусовай вакцынацыі", выказаўся за тое, каб адмяніць штрафы за адсутнасць сродкаў індывідуальнай абароны і праверкі разам міліцыяй, каб "перастаць кашмарыць беларусаў". Неўзабаве пасля яго выступу Міністэрства аховы здароўя Беларусі адмяніла сваё патрабаванне аб абавязковым масачным рэжыме для фізічных асоб ва ўмовах COVID-19.

У Менску нават пачалі прыбіраць аб'явы менавіта пра абавязковы масачны рэжым, аднак у Шуміліне да гэтага яшчэ не дадумаліся. Але напрошваецца і адваротны бок справы: дык цяпер што, цяпер цэнтр гігіены праверак перастане рабіць кантроль, а караць за абслугоўванне пакупнікоў без масак ніхто не будзе? Як кажуць, з агню ды ў полымя…

**Алесь Прыбярэжны**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

COVID-19

# КОЖНЫ ТРЭЦІ ПРЫШЧАПІЎСЯ

**На сённяшні дзень у Шумілінскім раёне правакцынавана каля 30 працэнтаў насельніцтва супраць COVID-19.**

Паводле галоўнага дзяржаўнага санітарнага лекара Віцебскай вобласці Уладзіміра Сінкевіча – цяпер у Віцебскай вобласці першую дозу вакцыны атрымалі больш за 230 тысяч чалавек. З іх поўнасцю курс вакцынацыі (з улікам другаснай ін'екцыі) завяршылі звыш 180 тысяч жыхароў.

Варта адзначыць, што найбольш адказна і прафесійна да гэтага пытання аднесліся работнікі сферы аховы здароўя і ўстаноў сацыяльнага абслугоўвання. Па два кампаненты прышчэпкі атрымалі адпаведна 80 і 85 адсоткаў работнікаў гэтых службаў.

Зараз у рэгіёне масава праводзіцца вакцынацыя сярод асоб, якія маюць больш высокую рызыку заражэння ў сувязі з іх прафесійнай дзейнасцю. Да гэтых сацыяльных груп належаць работнікі гандлю і грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання, транспарту, устаноў культуры, спартыўных арганізацый і інш. Да таго ж для вакцынацыі работнікаў па-за ўстановамі аховы здароўя працуюць выязныя прышчэпачныя брыгады. Прычым дастаткова актыўна вакцынай "Спадарожнік Лайт" прывіваюцца навучэнцы і студэнты устаноў прафтэхадукацыі і ВНУ.

Галоўны санітарны лекар заверыў, што кожная з іх праходзіць усе неабходныя выпрабаванні бяспекі і эфектыўнасці. Пакуль што ніякіх сур'ёзных непажаданых з'яваў ці ўскладненняў у вобласці і рэгіёнах не было зарэгістравана. Па яго меркаваннях, расейская вакцына «Спадарожнік V» дзейсная і супраць новых штамаў каранавіруса. Апроч таго, яе эпідэміялагічная эфектыўнасць супраць штаму Delta складае 83,1 адсотак, а зніжэнне рызыкі заражэння назіраецца ў шэсць разоў. Ёсць такі паказчык: эфектыўнасць па прадухіленні шпіталізацыі. Тэарэтычна выходзіць, што эфектыўнасць гэтай вакцыны складе 94,4 адсоткі, а верагоднасць зніжэння рызыкі шпіталізацыі – амаль у 18 разоў.

Што рабіць шумілінцам, калі ў сёлетнія восеньскія месяцы паралельна з антыковіднай кампаніяй праводзіцца таксама вакцынацыя супраць грыпу? У якой паслядоўнасці і з якім прамежкам лепш рабіць гэтыя прышчэпкі?

Варта памятаць, што найперш за ўсё небяспека ўяўляе спалучэнне ў чалавека каранавіруснай інфекцыі COVID-19 і сезоннага грыпу. Аднак для таго, каб абараніць сябе правільна, у першую чаргу трэба прайсці вакцынацыю супраць каранавіруснай інфекцыі. Апроч таго, па жаданні пацыента і пры адсутнасці супрацьпаказанняў магчыма сумеснае ўжыванне вакцыны супраць COVID-19 і вакцыны супраць грыпу.

Надыйшла пара і на Шумілiншчыне ўсвядоміць усяму люду, што разумнай альтэрнатывы вакцынацыі на сёння пакуль што няма.

**Алесь Шумскі**

# МАБІЛЬНАЯ ВАКЦЫНАЦЫЯ СЕЛЬЧАН

**У Шумілінскім раёне мабільныя брыгады медыкаў выязджаюць да сельчан для вакцынацыі супраць COVID-19.**

Яны выязджаюць нават у самыя аддаленыя населеныя пункты раёна, каб браць пацыентаў, якія ў сілу розных абставінаў не могуць самастойна прыходзіць у стацыянарны прывівальны пункт, у амбулаторыю або ФАП, а таксама работнікаў прадпрыемстваў і арганізацый

Паводле словаў загадчыцы паліклінікі Алены Віеру, адзіны і даступны сродак прафілактыкі каранавіруса – гэта прышчэпка. Так, яна магчыма не дае стоадсоткавай гарантыі, што вы не захварэеце, але яна абнадзейвае, што гэта смяротэльная хвароба будзе працякаць нашмат лягчэй.

Людзі прыдумваюць і чытаюць страшылкі аб прышчэпках у сеціве, шукаюць "адмазкі" , каб толькі яе не рабіць, і ў чарговай раз надзеюцца на авось. Алена Віеру прытрымліваецца такой пазіцыі: "Я катэгорычна не згодна з такой пастаноўкай пытання. Цяпер шмат сіл і на тое, каб данесці праўдзівую інфармацыю аб вакцынацыі."

Машына з брыгадай, у складзе якой уваходзяць лекары і медычныя сёстры, рухаецца ў раёне па загадзя складзеным маршруту і графіку. Падчас візіту адбываецца папярэдні агляд з медыцынскімі работнікамі.

Праўда, у Шумілінскім раёне выбар вакцын амаль што ніякі: кітайская або расейская, у апошні час кітайскай амаль не засталося, хіба што пакінулі, як кампанент на другасную ін'екцыю (а гэта мінімум праз 21 дзень)

Дарэчы, жахі ды комплексы перад вакцынацыяй развейваюць прышчэпкі ад сезоннага грыпу. У раёне маюцца "ветэраны" прышчэпачных кампаній, людзі ўжо сталога ўзросту, якія такіх дзесяткі гадоў прываліся ад грыпу. І заўважана, як самімі пацыентамі, так і лекарамі, што навернае, напэўна, не надта пакутавалі ад віруса. Тут яшчэ і наяўны плюс у вакцынацыі на даму, бо адсутнасць чэргаў, ды і не трэба кантактаваць з хворымі людзьмі ў паліклініцы. Да таго ж сёння ўвесь свет у палоне ў пандэміі.

Перад уколам, як палажэнне, складаецца аналіз стану здароўя, а прэпарат уводзіцца ўнутрымышачна ў плячо. Затым праз 21 дзень трэба ўвесці другі кампанент.

Пасля працэдуры медыцынскіх работнікаў папярэджваюць пацыентаў аб магчымых рэакцыях арганізма на прышчэпку: гжта падвышэнне тэмпературы цела, ламота ў суставах, наогул, тыя сімптомы, якія падобныя, што ўзнікаюць пры звычайных вострых рэспіраторных інфекцыях. Звычайна яны праходзяць праз суткі-двое. У гэты час лепш пабыць у пакой, піць шмат вады. Калі трэба збіць тэмпературу, то можна прыняць парацэтамол. Пры гэты не варта весці занадта актыўны вобраз жыцця ў гэтыя дні, а таксама рэкамендуецца весці мінімум кантактаў з людзьмі.

**М Амбросаў**

ПЕРАСЛЕД

# ПАКАРАННІ ЗА КАМЕНТАР

**У Віцебскай вобласці – новыя падазраваныя ў абразе прадстаўнікоў улады.**

Міліцыя працягвае паведамляць пра затрыманні і завядзенні крымінальных справаў у дачыненні грамадзян, якія нібыта прынізілі гонар і годнасць чыноўнікаў і прадстаўнікоў праваахоўных органаў. Такіх «ідэнтыфікаваных» людзей у Віцебскай вобласці даволі шмат, што сведчыць аб тым, што пратэставыя настрої ў грамадстве нікуды не зніклі і не знікнуць у бліжэйшы час.

Так, мінулым летам трое жыхароў Віцебскай вобласці ў сацыяльнай сетцы «Аднакласнікі» пад рознымі публікацыямі размясцілі каментарыі з абразамі на адрас супрацоўнікаў міліцыі.

Паводле інфармацыі УУС, абвінавачаныя раскаяліся ва ўчыненым і патлумачылі, што паддаліся ўплыву разбуральных Telegram-каналаў.

Ужо маюцца публічныя заявы пра тое, што 41-гадоваму жыхару Лепельскага раёну, 52-гадоваму жыхару Воршы і 41-гадоваму жыхару Полацку пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі са штрафам.

А жыхар Верхнядзвінску, які быў, на думку міліцыянтаў, адміністратарам дэструктыўнага чату, быў затрыманы за абразу памочніка пракурора.

34-гадовы майстар з Верхнядзвінску быў затрыманы супрацоўнікамі ГУБАЗіК. Мужчыну вінавацяць у абразе праз каментаванне фатаграфій вайскоўцаў, пракурораў, журналістаў і кіраўніка дзяржавы.

Меркаваны парушальнік быў прызнаны падазраваным па крымінальнай справе, распачатай за негатыўнае выказванне на імя старшага памочніка пракурора аднаго з раёнаў Менску, з якім мужчына не быў знаёмы. Астатнія факты правяраюцца праваахоўнікамі. Пасля затрымання адміністратара інфармацыйны рэсурс быў ліквідаваны.

**Віталь Кажух**

УЛАДА

# ПРЫЗНАЧЭННЕ НА ПАСАДУ

**На днях ураджэнка Шуміліна была прызначана начальнікам аддзела ідэалагічнай работы і па справах моладзі Віцебскага гарвыканкама.**

Наталля Сакалова нарадзілася ў 1976 годзе ў мястэчку Шуміліна. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіла ў Віцебскі Дзяржаўны Універсітэт імя П.М. Машэрава. У 2019 годзе скончыла Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Свой працоўны шлях Сакалова пачынала настаўнікам фізікі ў Шумілінскай СШ №1. У 2000 годзе знаходзілася на пасадзе спецыяліста аддзела па працы з пярвічкамі Віцебскага гаркама ГА "Беларускі патрыятычны саюз моладзі".

З 2002 па 2004 год працавала ў ГА "Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі" Першамайскага раёна: выконваючым абавязкі першага сакратара, першым сакратаром.

Ужніўні 2004 года пераведзена ў аддзел ідэалагічнай работы адміністрацыі Першамайскага раёна горада Віцебска, дзе працавала галоўным спецыялістам, у 2013 годзе назначана яго начальнікам. Наталля Валер'еўна працавала тут да назначэння на пасаду начальніка аддзела ідэалагічнай работы і па справах моладзі Віцебскага гарвыканкама.

**Ян Вайтовіч**

ЖЫЦЦЁВЫЯ ГІСТОРЫІ

# ВАНДРОЎКІ ПА ЛЯСНЫМ ГАСПАДАРКАМ

**Работнік лесу з вёскі Пабеда Шумілінскага раёна за паўстагоддзя прайшоў вандроўкамі не толькі ўсю Беларусь.**

Гэтым летам Генадзю Ганчанка, начальніку праектна-пошукавых партыі № 1 аддзела лесагаспадарчага праектавання УП «Белгипролес», споўнілася 76 гадоў. Ганчанку, які узнагароджанага медалём "За працоўныя заслугі", на месцы не застаць. «У свой час прапаноўвалі стаць галоўным інжынерам праекта, але кабінетная праца не для мяне, – прызнаецца Генадзь Юр'евіч, – Я люблю прыроду. Яна крыніца сілы і натхнення».

Генадзь Ганченко нарадзіўся ў 1945-м у вёсцы Пабеда Шумілінскага раёна. Пасля школы вырашыў паступаць у ваенна-артылерыйскае вучылішча: маці ў гады Вялікай Айчыннай была разведчыцай, што і паўплывала на выбар. Паехаў у Каломну, здаў экзамены. Але перадумаў, забраў дакументы, вярнуўся ў сваё сяло. А бабуля Матрона Аляксееўна сказала як адрэзала: «Ці ідзеш працаваць, або едзеш вучыцца. Выбар за табой». І працягнула тры рублі. Пайшоў на вакзал, сеў у першы ж аўтобус ... Так 18-гадовы Генадзь апынуўся ў Полацку, дзе яму на вочы трапілася аб'ява аб наборы студэнтаў у прафтэхвучылішчы. Падаў дакументы, а дама з прыёмнай камісіі, убачыўшы школьны атэстат, кажа: «З тваімі пяцёркамі лепш паступаць не сюды, а ў Полацкі лясны тэхнікум».

– Памчаўся туды, але набор ужо скончыўся. І раптам да мяне падышла дырэктар тэхнікума Тамара Ільінская. Разгаварыліся, і яна падарыла шанец стаць студэнтам. Адвяла да выкладчыка, які прымаў складанне ў завочнікаў. Сказала: «Калі на выдатна за дзень здасі і гэты экзамен, і матэматыку з очнікаў, лічы, прыняты».

Дагэтуль упэўнены, што ў тыя даўнія гады сам лёс яго вяла, падказваючы выбар правільнага шляху. А на прадпрыемстве «Белгипролес» працуе з моманту яго заснавання:

- Калі прыйшоў сюды ў 1965 годзе тэхнікам ляснoй гаспадаркі, яно звалася «Союзгипролесхоз». У той час галоўнай задачай нашай Беларускай комплекснай праектна-пошукавыя экспедыцыі была меліярацыя, асушэнне лясных зямель. Так што палову жыцця фактычна правёў у лесе. Прайшоў вандроўкамі з калегамі не толькі ўсю Беларусь, але і Карэлію, Калінінградскую вобласць.

Беларускія лясы захапляюць Генадзя Юр'евіча ўсё жыццё, зыходзіў ён іх усё ўздоўж і папярок – ад Камарына на Гомельшчыне да Езярышча на Віцебшчыне. Колькі за жыццё намотаў кіламетраў, не падлічваў ...

"Самі судзіце, у камандзіроўкі выязджаем рэгулярна. Калі знаходзішся ў тым жа Прыпяцкім запаведніку, Жыцьмагутныя дубы, то адчуваеш такі прыліў энергіі - словамі не перадаць! А на Віцебшчыне, напрыклад, у сасновым бары ёсць шыкоўнае блакітнае возера, ад аднаго сузірання якога сэрца напаўняецца радасцю."

За 50 з лішнім гадоў працы ён удзельнічаў у стварэнні мноства важных праектаў: закладцы лясных дарог, лесанасенных плантацый, гадавальнікаў, рэканструкцыі выпрацаваных тарфянікаў... Аб сваім родным прадпрыемстве, дырэктару Уладзіміру Радзюкевіч, калегах Ганченко таксама адклікаецца цеплынёй:

– Тут знайшоў не толькі аднадумцаў, але і сапраўдных сяброў. Мы не проста адна каманда, вялікая сям'я.

Дарэчы, сям'і Генадзь Юр'евіч вельмі ўдзячны. Два гады таму яны з жонкай Галінай Ягораўна адзначылі залатое вяселле.

**sb.by**
**Пераклад з расейскай рэдактара**

ЗДАРЭННІ

# ПАЖАР ДОМА

**У вёсцы Тупічына загарэўся дом.**

12 верасня а шостай гадзіне вечара паступіла паведамленне аб пажары жылога дома ў вёсцы Тупічына Шумілінскага раёна.

У выніку пажару ў доме агнём было пашкоджана паталочнае перакрыццё, сцены і маёмасць, паведамляе абласное упраўленне МНС.

Прычына ўзгарання ўстанаўліваецца.

# УТАПІЎСЯ Ў ВОЗЕРЫ

**У Шумілінскім раёне ў возеры ўтапіўся мужчына.**

22 верасня ў 17.00 выратавальнікам паступіла паведамленне пра мужчыну, які патануў у возеры Мошна каля вёскі Прыазёрная.

Работнікі МНС вынялі з вады цела патанулага, асоба якога цяпер устанаўліваецца.

Пра гэта распавялі ў прэс-службе МНС.

**Сяржук Крупскі па матэрыялах МНС**

COVID-19

# ВІРУСОЛАГ: НЕДАСТАТКОВА 50% ВАКЦЫНАВАЦЬ НАСЕЛЬНІЦТВА

**Спецыяліст пра спосаб, які можа спыніць распаўсюд COVID-19.**

Прычынамі ўсплёску захворвання падчас чацвёртай хвалі каранавіруса з'яўляюцца вельмі нізкія тэмпы вакцынацыі і катастрафічнае нежаданне людзей насіць маскі, лічыць малекулярны біёлаг, вірусолаг Сяргей Няцёсаў. - У дадатак да гэтага прыйшоў варыянт дэльта, у якога рэпрадуктыўнае лік у два разы больш, чым у ранейшага Уханьскага варыянту, і таму вірус распаўсюджваецца нашмат хутчэй і нашмат больш эфектыўна, асабліва на тых людзей, у якіх няма масак, - адзначыў спецыяліст у эфіры канала « І Грымнуў Грэм». - Справа ў тым, што чалавек, інфікаваны гэтым штамам, вылучае прыкладна ў 50-100 разоў больш віруса, чым вылучаў чалавек, які быў заражаны Уханьскім варыянтам.

Менавіта таму хоць бы трэба насіць маскі, маска вельмі моцна памяншае дозу. А цяпер у гэты эпідэміялагічны перыяд маскі трэба насіць нават тым, хто прышчэплены, але прышчэплены больш, чым тры месяцы таму. Прафесар таксама не выключае, што ад віруса могуць абараняць акуляры: - Сапраўды, у людзей у акулярах рызыка заразіцца зніжаная, але гэта не замяняе маску, гэта дапаўняе маску. Зніжэнне захворвання ў тых, хто ў акулярах, нашмат менш, чым зніжэнне захворвання ў тых, хто носіць маску. Выйсце - трэба надзець маскі і інтэнсіўна вакцынавацца.

На карысць вакцынацыі спецыяліст прывёў прыклад Ізраіля. - Ёсць просты спосаб, і ён ужо апрабаваны. Першая краіна, якая яго праверыла, - Ізраіль, дзе ўвялі абавязкова трэцюю кампанею вакцыны Pfizer. І ў іх адразу хваля варыянту дэльта пайшла на спад. Пры гэтым у шматлікіх краінах, у тым ліку Расіі і Беларусі, нават першую кампанету атрымалі вельмі не шматлікія. А трэба дайсці не менш, чым да 70% вакцынацыі насельніцтва.

Для варыянту дэльта недастаткова нават 50% вакцынаваць насельніцтва. Ад такой нізкай вакцынацыі насельніцтва мы не ўбачым эфекту. На самай справе ёсць прыклады значна больш хутка эвалюцыявальных штамаў. Гэта ВІЧ, гепатыт 3, гэта вірус грыпу. Пры гэтым каранавірус муціруе нашмат павольней гэтых вірусаў. Таму яго эвалюцыю можна абагнаць проста хуткім вакцынаваннем, - упэўнены эксперт.

**"Салідарнасць"**

АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ПРА РОЛЮ РОЗНІЦЫ ПАМІЖ «ТАМ» І «ТУТ» У ГІСТОРЫІ

**Мабыць, ні ў чым так не праяўляецца своеасаблівасць «беларускай мадэлі», як у стаўленні да інтэрнэту. Слова «лічбавізацыя», якое ўвайшло ў моду, не павінна ўводзіць у зман, паколькі лямпавыя людзі ў лічбавай будучыні бачаць не магчымасці, а пагрозы.**



На ліквідацыі пагрозаў і спецыялізуецца беларуская мадэль. Гэта яе modus vivendi (спосаб існавання) — у гэтых рамках хлеб беларускія сяляне сеюць не дзеля атрымання прыбытку, а дзеля вырашэння праблемы харчовай бяспекі.

Але інтэрнэт — гэта не проста СМІ, якія слаба паддаюцца кантролю. Маштаб пагрозы, што сыходзіць з яго боку, не можа быць усвядомлены людзьмі, якія ўспрымаюць сусветнае павуцінне выключна ў якасці сродку камунікацыі. Калі б усё было так проста, то на інфармацыйную памыйніцу ўсялякі аўтарытарны рэжым даўно б накінуў цуглі. Аднак нешта пастаянна перашкаджае гэта зрабіць.

**Чалавек слова vs. чалавек лічбы**

Асэнсаванне феномену інтэрнэту магчыма толькі ў кантэксце эвалюцыі чалавечай свядомасці і культуры, пад якой разумеецца ўся сукупнасць небіялагічнай актыўнасці чалавека.

Перш за ўсё, варта ўсвядоміць, што інтэрнэт з'яўляецца феноменам не функцыянальным, а сістэмным. Гэтым ён адрозніваецца ад шматлікіх вынаходніцтваў тэхналагічнай эпохі, накіраваных на задавальненне канкрэтных патрэбаў (паравы рухавік, рухавік унутранага згарання і г.д.). Таму інтэрнэт як цэласная з'ява не можа быць зведзены да якіх-небудзь яго прыкладных функцый.

Сістэмная самадастатковасць надае інтэрнэту магчымасць самаразвіцця, што на практыцы і назіраецца. А гэта, у сваю чаргу, дазваляе разглядаць яго як самастойную падсістэму культуры.

Уцягнутасць у інтэрнэт — асабліва ўжо з дзіцячага ўзросту — мяняе не толькі псіхалогію чалавека, але і яго сацыякультурны тып, і тым самым ператварае інтэрнэт у адзін з ключавых фактараў культурна-антрапалагічнай эвалюцыі.

На змену чалавеку слова, так званаму логацэнтрыку, на нашых вачах ідзе чалавек лічбы.

У логацэнтрычным свеце слова — Логас — не проста адлюстроўвае рэальнасць. Яно і ёсць рэальнасць. Як тут ні прыгадаць першы радок Евангелля ад Яна: «У пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог»…

**Ад правага да левага паўшар'я і назад**

З усяго працытаванага вышэй для далейшага прасоўвання наперад дастаткова засвоіць адну думку: логацэнтрычны свет — гэта свет іерархічнага чалавека, для якога няма нічога больш натуральнага, чым успрыманне сваіх суплямennікаў або ў ролі начальнікаў, або ў ролі падначаленых.

Разбурэнне ўладнай вертыкалі, што ў мінулым стагоддзі двойчы назіралася сярод родных бяроз і асін, прыводзіла ў ступар чалавека іерархічнага. Калі ён адыходзіў ад шоку, дык пачынаў патрабаваць навядзення парадку, пад якім разумеў аднаўленне простай і зразумелай іерархіі.

Рэвалюцыя 1917 года і рэвалюцыя канца 1980-х гадоў (Перабудова), зрэшты, як і ўсе папярэднія еўрапейскія рэвалюцыі, праходзілі ў рамках логацэнтрычных стратэгій, бо на змену адным іерархічным сістэмам прыходзілі іншыя.

Тое, што мы назіраем сёння, сведчыць не пра колькасныя, а хутчэй пра якасныя змены ў грамадстве. Нашы дагістарычныя продкі — паляўнічыя і збіральнікі — для выжывання мелі патрэбу ў першую чаргу не ў лагічным асэнсаванні свету, а ў аператыўным аналізе «малюнкаў». А паколькі за вобразнае ўспрыманне адказвае правае паўшар'е мозгу — то яно і было ў іх дамінуючым.

З такога чалавечага матэрыялу не пабудаваць іерархіі, якая выходзіць за цесны круг роду. Таму ўласна гісторыя чалавецтва пачынаецца з пераходу ад палявання і збіральніцтва да прадукцыйнай эканомікі (земляробства і жывёлагадоўлі), у якой вядучую ролю сталі адыгрываць прадстаўнікі Homo sapiens з дамінаваннем левага паўшар'я.

Калі архаік быў яшчэ не здольны ўсвядоміць цэласнасць свету, то для ўладальніка інтэрнэт-свядомасці свет ужо не цэласны. Таму архаік (прыгадаем Пятніцу з несмяротнага рамана «Прыгоды Рабінзона Круза») бескарысны для выбудоўвання ўладных вертыкаляў. Што тычыцца ўладальніка сучаснай інтэрнэт-свядомасці, то для яго іерархіі калі і існуюць, то як загадзя ўмоўныя, зменлівыя і, такім чынам, неабавязковыя і неістотныя.

**Згодна з запаветам Сямёна Сямёнавіча**

І як на ўсё гэта прапануеце рэагаваць? Можна скарыстацца адкрыццём Уладзіміра Пуціна, якім ён падзяліўся 24 красавіка 2014 года на медыяфоруме ў Пецярбургу: «Усё гэта (інтэрнэт) паўстала як спецпраект ЦРУ ЗША, так і развіваецца».

Здавалася б, больш даходліва і не скажаш, дык у чым справа? А праблема ў тым, што не хлебам адзіным жыве чалавек. Большасць, зразумела, асабліва не пераймаецца — абмяжоўвае свае патрэбы выключна імкненнем да камфортнага жыцця. Але ўсё часцей як беларусы, так і расіяне пачынаюць прад'яўляць запыт на справядлівасць, свабоду і роўнасць.

Дадзім слова палітолагу Уладзіміру Пастухову: «Небяспечна, калі параўнанне з іншымі — не на карысць рэжыму. Да апошняга моманту запыты першага парадку ў Расіі задавальняліся на ўзроўні, які перавышае ўзроўні 1990-х гадоў і большую частку савецкага часу. Калі будзе ўсталявана жалезная заслона, у тым ліку інфармацыйная, пачне нарастаць розніца паміж «тут» і «там». А розніца паміж "тут" і "там" — асноўны фактар рэвалюцыі».

Прыгадаем Сямёна Сямёнавіча з «Брыльянтавай рукі», які наведаў казачны свет, у якім п'юць кока-колу. І без інтэрнэту колькасць ахвочых выпіць імпартны напой у краіне, дзе перамог сацыялізм, расла па экспаненце. У 1991 годзе гэта колькасць спарадзіла новую якасць. Не так даўно гэта было. Яшчэ хапае тых, хто пра гэта памятае.

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.by**

РЭЗАНАНС

# «У НАС ПАЗІЦЫЯ — НЕ ТРЭБА МАСАК, НІЧОГА, САМО ПРОЙДЗЕ»

**19-га кастрычніка Лукашэнка правёў нараду, прысвечаную каранавірусу. На ёй прагучала некалькі нечаканых загадаў: штрафаў за парушэнне масачнага рэжыму не будзе; міліцыя не павінна кантраляваць нашэнне масак грамадзянамі; нельга «напружваць людзей вакцынацыяй».**

Таксама Лукашэнка абавязаў вярнуць планавыя аперацыі, кансультацыі і агляды, адмененыя нядаўна. Таксама было абяцана, што ў 2023 годзе ў Беларусі з'явіцца свая вакцына ад кавіду, якую «прыстасуюць да віруса, які будзе цыркуляваць у 2023». Галоўнае даручэнне Лукашэнкі міністру аховы здароўя Піневічу — «вяртайцеся да таго, што мы рабілі ў першую хвалю». Дзяржпрапаганда адразу ж прынялася ўхваляць гэтыя рашэнні. А што ж пра ўсё гэта думаюць медыкі? «Наша Ніва» пагаварыла з трыма медработнікамі. Яны папрасілі застацца ананімнымі, але імёны вядомыя рэдакцыі.

**«Але дзе гэта будзе? У тых жа бальніцах, дзе вы заразіцеся «каронай»?**

«Я не здзіўлены. Бо мы ж «ненахіляемыя», што трэба перакладаць як «тыя, хто не навучваецца». Нам няважна рэчаіснасць, няважна, што адбываецца, — саркастычна каментуе адзін з суразмоўцаў, сёння ўжо былы работнік адной з беларускіх бальніц. — Бо ў нас ёсць свая пазіцыя, прынятая 1,5 года таму, на яе мы і цісньем. Не трэба масак, не трэба нічога — само пройдзе.

Што тычыцца вяртання да таго, што рабілася падчас першай хвалі, то тут такі момант — мы баімся калапса сістэмы аховы здароўя.

А якія крытэрыі калапса? Калі дактарам трэба адмыслова шукаць кісларод, шукаць свабодныя койкі — то ён наступіў.

Можна казаць, што не будзе аказвацца планавая дапамога. Гэта жудасна з пункту гледжання піяра, таму ўсё адкацілі назад, цяпер ужо зноў будзе і планавая дапамога, і аперацыі, і ўсё іншае.

Але дзе гэта будзе? У тых жа бальніцах, дзе вы заразіцеся «каронай»? Гэта складаная тэма, так, некаторыя аперацыі патрабуюць абавязковага ўмяшальніцтва ў пэўныя тэрміны. Але ж калі вы можаце перачакаць — перачакайце.

Бо прыязджаюць пацыенты розныя, некаторыя — ужо з «чымсьці». Тое ж тычыцца і дзяцей. Сёння дзеці хварэюць зусім не так як год таму, хварэюць больш, адпаведна разносяць хваробу.

А вось што тычыцца штрафаў за маскі, то гэта можа быць не лепшая ідэя. Бо калі я ўяўляю, што нашым сілавікам дадуць дадатковыя правы і тут, то я супраць. Гэтым людзям нельга дазваляць яшчэ больш.

Ды і справа не ў штрафах. Агітацыю і падрыхтоўку да чарговай хвалі зноў правалілі. І цяпер рабіць рэзкія рухі ўжо позна. Усё страшнае ўжо здарылася.

Калі галоўным па лячэнню кавіда становіцца чалавек, які не мае ніякай спецыяльнай падрыхтоўкі, то пачынаюцца гэтыя заявы.

Праблема не ў тым, колькі ў нас апаратаў ШВЛ — яны не лечаць людзей. Галоўная задача — не дапусціць, каб у бальніцы пачаў паступаць вялікі паток хворых адначасова.

А ў раёнах яшчэ і арганізацыйнае пытанне. Там рэанімацыі маленькія, часам увогуле на шэсць коек. Бярэм два населеных пункта, у адным успышка, у другім — няма.

Тады трэба адну бальніцу аддаваць цалкам пад карону, а другую — пад іншых пацыентаў. Каб мінімізаваць кантакты і пацыентаў, і персанала. І банальна як зручней — вазіць кісларод у дзве бальніцы альбо ў адну? Калі гэтыя рашэнні былі прынятыя раней — тады добра. Калі не — то цяпер позна ўжо.

Што тычыцца беларускай вакцыны, то гэта мне нагадвае Рагозіна і яго планы марсіянскіх базаў. Гэта ўвогуле не варта абмяркоўваць. Бо калі праваленая база — не трэба будаваць пражэкты.

Таму скажу проста: людзям трэба самім берагчы сябе».

**«Наконт беларускай вакцыны — пакуль няма вакцыны, няма пра што і казаць»**

Другі медык працягвае сёння працаваць у медустанове. Ён кажа:

«Наконт вяртання планавай дапамогі — неадназначны момант. З аднаго боку планавая дапамога гэта не толькі прафагляды, ці штосьці не асабліва важнае. Гэта і дапамога анкапацыентам (дзе крытычную ролю адыгрывае своечасовасць аказання) і лекаванне хронікаў, без якога яны хуткім часам пачынаюць патрабаваць экстраннай дапамогі.

З другога боку, зараз яно, магчыма, і патрэбна — кінуць усе магчымыя сілы на барацьбу з кавідам. Адказаць, што правільна, можа толькі той, хто мае сапраўдныя цыфры статыстыкі і можа сказаць, які крок можа захаваць больш жыццяў.

Наконт беларускай вакцыны. Пакуль няма вакцыны, няма пра што і казаць. Як будзе вакцына, як будуць апублікаваны даследванні, тады і можна будзе пра яе штосьці абмяркоўваць. Зараз, падаецца, на нешматлікіх жадаючых прывіцца хапае расійскай і кітайскай вакцынаў. А што будзе ў 2023, хто ведае?

Пра вяртанне да паводзінаў падчас першай хвалі. Дзеянні ў першую хвалю былі напалову хаатычныя і часткова бессэнсоўныя, бо ніхто нічога не ведаў. Тое, што рабіў Піневіч да гэтай размовы, было больш асэнсавана, бо заснавана ўсё ж на вопыце.

Увогуле, кантралюемай сённяшнюю сітуацыю дакладна не назавеш, усе вельмі дрэнна. Але пакуль на вуліцах трупаў няма, падаецца.

Калі рэзюміраваць, то Піневіч хаця б намагаўся штосьці зрабіць з сітуацыяй і рабіць правільныя крокі. Што будзе зараз — не ведаю».

*(скарочана)*

**Nashaniva.com**

АХОВА ЗДАРОЎЯ

# НЕ ХВАТАЕТ НЕСКОЛЬКО ТЫСЯЧ ВРАЧЕЙ И МЕДСЕСТЕР

**В республиканской базе в число самых востребованных специалистов уже не один год традиционно входят медики. На фоне пандемии эта проблема стала еще острее.**

В общереспубликанском банке вакансий, по данным на 20 октября, по всей стране не хватает 2950 врачей, чуть более 2800 медсестер, около 1 тысячи фельдшеров и почти 400 помощников врача. В общей сумме, в нашей стране требуется более семи тысяч медработников.

Больше всего врачей требуются в медицинские учреждения Минска – 732.

На втором и третьем месте по дефициту врачей идут Брестская и Гомельские области, где вакантными остаются 539 и 422 ставок врачей.

Самая значительная нехватка медсестер также в столице. Там открыта 841 вакансия.

На втором месте находится Гомельская область. Здесь требуются 583 медсестры, то есть в регионе больше нуждаются в медсестрах, чем во врачах.

На третьем месте по дефициту медсестер находится Брестская область. Там не закрыто 418 вакансий.

Лучше всего ситуация с медицинскими кадрами, если судить по банку вакансий, на Витебщине. Там требуются 278 врачей и 191 медсестра. Это меньше, чем в других регионах.

**Какие зарплаты?**

Предлагаемые зарплаты – от 135 до 2300 рублей.

Вакансий с зарплатой более 2000 рублей мы нашли лишь пять. Например, от 2000 рублей предлагают работу на ставку анестезиологу-реаниматологу в Гомеле и Минске. От 2140 рублей обещают врачу клинической лабораторной диагностики клинико-диагностической лаборатории в Гродненской областной инфекционной клинической больнице.

От 2325 рублей готовы заплатить врачу спортивной медицины в Бресте. Наниматель – общество с ограниченной ответственностью «Центр развития футбола» – сообщает, что работа разъездная.

Самое высокооплачиваемое предложение – о работе врачом-анестезиологом-реаниматологом. На ставку в «Городской клинической инфекционной больнице» Минска готовы платить за работу 3000 рублей.

Что касаемо самых низкооплачиваемых вакансий, то в Барановичской центральной поликлинике ищут оториноларинголога, офтальмолога, хирурга и врача-методиста на постоянную работу. Всем им предлагается достаточно низкая зарплата – 137,5 руб. Правда, указано, что врачи требуются на 0,25 ставки.

Отметим, что основное количество вакансий (около 1800 из 2950) врачей-специалистов идут с зарплатой от 500 до 1000 рублей. И это не всегда работа на полную ставку.

К слову, уже давно не секрет, что многие белорусские врачи вынуждены работать больше, чем на ставку, чтобы получать больше. А сегодня, в период пандемии, им и вовсе приходится нелегко, многие работают на износ…

*(скарочана)*

**ЕЖЕДНЕВНИК health.ej.by**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# СКАРАЦІЛІ ВЫТВОРЧАСЦЬ І ПАСТАВІЛІ РЭКОРД ПА ДАЎГАХ

**У 2021 годзе нізкі ўраджай абваліў выпуску сельскай гаспадарцы. Даўгі флагманаў аграрнага сектара пабілі гістарычны максімум. Па выніках 9 месяцаў 2021-га дабаўленая вартасць у сельскай, лясной і рыбнай гаспадарцы ўпала на 6%, пішуць banki24.by.**

Гэта другі горшы вынік сярод пазіцый, якія аператыўна публікуюць статыстычныя органы (пасля будаўнічага сектара). Зніжэнне дабаўленай вартасці прывяло да тармажэння росту ВУП Беларусі на 0,5 працэнтных пункта, гэта значыць, што ў адсутнасць аграрнага спаду эканамічны рост за 9 месяцаў склаў бы не 2,7%, а каля 3,2%.

Вытворчасць сельгаспрадукцыі за 9 месяцаў скарацілася да 2020 года на 6,6%. Пры гэтым спад асобна за верасень склаў 13,7%. Памяншэнне выпуску ў сельскай гаспадарцы звязана з падзеннем валавога збору раслінных культур.

На 1 кастрычніка збор збожжавых і зернебабовых без кукурузы ў тонах знізіўся да такой жа даты ў 2020-м на 19,7%, бульбы — на 28,4%, гародніны адкрытага грунту — на 18,2%, цукровых буракоў — на 18%.

За 8 месяцаў 2021-га сярэдні заробак у раслінаводстве вырас да 2020-га ўсяго на 2,8%, у жывёлагадоўлі — на 3,7%.

Параўнайце: рост рэальнай зарплаты ў цэлым па эканоміцы склаў 5,2%. Вядома, што аграрыі займаюць адно з апошніх месцаў у краіне па памеры гадзіннага заробку і адначасова працуюць больш за астатніх.

То-бок пры нізкім росце сярэдняй зарплаты ў галіны адрыў ад іншых відаў дзейнасці ў эканоміцы не скарачаецца. За 8 месяцаў па аграсектары было звольнена 63 тыс. работнікаў, а прынята на працу — 59 тыс. Такім чынам, чысты адток кадраў з флагманаў галіны склаў каля 4 тыс. чалавек.

Сярэдняя рэнтабельнасць продажаў па флагманах сельскай гаспадаркі склала за 8 месяцаў каля 6,5%. Аднак медыянная рэнтабельнасць у галіны істотна ніжэйшая. Гэта вынікае з размеркавання флагманаў па ўзроўні рэнтабельнасці: 26,4% кампаній неслі страты з продажаў (нерэнтабельныя), а 34,5% мелі рэнтабельнасць у межах 0-5%.

Сярод флагманаў галіны нізкая ўдзельная вага высокадаходных бізнэсаў. Усяго 3,9% кампаній у 2021 годзе паказалі рэнтабельнасць продажаў не менш за 20% і толькі 0,6% — не ніжэй за 30%.

На 1 верасня сумарныя даўгі флагманаў сельскай гаспадаркі склалі 16,3 млрд BYN, і гэта максімальная сума за ўсю гісторыю замераў па бягучай методыцы. Папярэдні рэкорд пратрымаўся ўсяго 2 месяцы. З пачатку 2021 года памер сукупнай запазычанасці ў сельскай гаспадарцы вырас на 9,3%.

**banki24.by**

КАНСТЫТУЦЫЯ

# ОСТАНЕТСЯ ЛИ ЛУКАШЕНКО «ВЕЧНЫМ ПРЕЗИДЕНТОМ»?

**Александр Лукашенко, вероятно, пока так и не решил, какое место займет после принятия новой Конституции. А если и решил, то будет темнить до последнего. Особенно если намерен-таки покинуть нынешнее кресло. Становиться «хромой уткой» любому политику неприятно, а главе персоналистского режима еще и опасно.**

Поскольку же подчиненные, ангажированные в процесс подготовки проекта Конституции, не знают, что на уме у шефа, то сколько ни призывай их к активной выработке предложений, толку будет мало. Понятно, что точки над і все равно будет расставлять сам Лукашенко.

Его сегодняшняя встреча с рабочей группой по доработке проекта новой Конституции ничего по сути не прояснила. Вождь политического режима лишь еще раз подчеркнул свою уже не раз артикулированную убежденность в том, что «Беларусь должна быть президентской республикой, если мы хотим сохранить страну».

Но поскольку новым статусом и новыми полномочиями наделяется Всебелорусское народное собрание, то, заявил Лукашенко, важно «не нарушить устойчивость государственного аппарата, не допустить появления в стране двоевластия»…

**Какое кресло выбрать? Или оба?**

…Понятно, что чем короче срок кампании, тем комфортнее для властей. Но дело, пожалуй, не в этом. Лукашенко, похоже, напряженно раздумывает. С одной стороны, он хочет создать, как многие предполагают, новую структуру под себя в виде ВНС, с другой — не поставить этой новацией под угрозу разрушения всю любовно отстроенную им за четверть века систему.

Как это сделать — еще та задачка. Аналитик Артем Шрайбман отмечал в комментарии для Naviny.by, что «это два несовместимых желания. Если вы оставляете сильного президента и [делаете] сильное Всебелорусское собрание, это априори означает двоевластие».

ВНС, как можно понять по словам Лукашенко, должно иметь возможность довольно жестко контролировать, поправлять президента и даже объявлять ему импичмент. В этих рассуждениях Лукашенко наверняка видит себя на посту главы ВНС.

Но когда он говорит, что нужно сохранить сильную президентскую власть, то наверняка за этим стоит, кроме всего прочего, желание подольше посидеть в нынешнем кресле.

Может, он найдет выход в том, чтобы, оставаясь в этом кресле, на переходный период еще и возглавить ВНС? Для авторитарных вождей совмещать несколько высших постов — обычное дело, так было, например, в СССР.

В недавнем интервью CNN Лукашенко припугнул Запад тем, что вообще останется «вечным президентом», если тот будет давить. Ну, а при нынешних отношениях с ЕС и США, раскручивании идеологемы осажденной крепости всегда можно сослаться на козни врагов.

**Зачем пятое колесо в телеге?**

Если же зрить в корень, то возникает детский вопрос: а зачем вообще это ВНС, и уж тем более — с термоядерными полномочиями? Зачем городить огород, присобачивать к телеге пятое колесо? Ведь первый президент создал по-своему совершенную конструкцию авторитарной власти.

Вот Лукашенко заявляет, что «Всебелорусское народное собрание вводится <…> для того, чтобы обеспечить, как юристы говорят, сдерживание и противовес». Но при этом опасается, что такая новация как раз-таки разбалансирует систему власти. Где логика? Зачем тогда этот риск?

Сергеенко же говорит, что ВНС «должно представлять все слои общества». Простите, а зачем тогда парламент? Будь в Беларуси нормальные парламентские выборы, а не назначение депутатов с жесточайшим отсечением критиков режима, именно Национальное собрание играло бы роль такой полифоничной трибуны и являлось бы элементом системы сдержек и противовесов. Большие же начальники де-факто признают, что никакого разделения властей у нас нет, парламент — лишь декорация.

И потом, ведь участники предыдущих ВНС тоже фактически назначались из числа проверенных, железных лоялистов. Вряд ли от такого подхода откажутся и впредь. «Бэчебэшников» к ВНС, понятное дело, на пушечный выстрел не подпустят. Так что о представительстве всех слоев — лишь красивые слова.

**Система может окончательно окуклиться**

На самом деле речь идет о том, чтобы авторитарная система еще сильнее отгородилась от народа, окончательно окуклилась. Только вот красивая бабочка из такой куколки никогда не получится. Узкий круг тщательно отфильтрованных людей будет определять всю политику страны.

Не случайно Лукашенко предложил, чтобы ВНС могло даже изменять Конституцию. Представьте себе: тогда вообще без всяких референдумов (после августа 2020 года любые электоральные кампании страшат) в ней можно будет легко прописывать что угодно, обеспечивая хоть пожизненное правление нынешнего вождя, хоть условия для фактической передачи власти по наследству.

Таким образом, все эти маневры вокруг ВНС и новой Конституции в целом связаны прежде всего с тем, что Лукашенко думает, как бы уйти (на чем, возможно, настаивает Кремль) так, чтобы остаться и чтобы вообще все было по-прежнему.

И хотя вождь режима уверяет, что новая Конституция будет менее жесткой, на самом деле, как видим, ее сверхзадача — сохранить авторитаризм, обеспечить нынешней правящей верхушке дальнейший контроль над страной, не допустить к власти людей с иными представлениями о будущем Беларуси.

И это означает, что новый Основной закон не принесет мира и согласия разодранному жестоким внутриполитическим кризисом белорусскому обществу.

**Александр Класковский**
**naviny.online**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 28.10.2021 у 18.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.